Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

12 - 18 ЧЭРВЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ

№24 (164)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Працістаянне

Праз тыдзень горад прыме чарговы - пяты - фестываль беларускай песні і паэзіі. Тры дні маладзечанцы і шматлікія госці горада змогуць бачыць і чуць вядомых артыстаў і літаратараў.

Варта адзначыць запланаваныя «канцэрт-працістаянне» і заключнае шоў, калі на сцэну выйдуць вядомыя беларускія артысты, якія далі згоду працаваць без фанаграмы (апошнім многія спевакі грашылі ў мінулыя гады).

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

### Чарговая знаходка

Смаргоншчына не раз станавілася арэнай ваенных дзеянняў. Па сёння тут знаходзяць страшныя рэліквіі мінулых бітваў. Вось і нядаўна разнесліся чуткі пра тое, што пад вёскай Святляне знойдзены цэлы склад боепрыпасаў.

Гарваенком **Анатоль Міхальчык** сказаў, што экскаватаршчык адкапаў "усяго" адзін снарад. Знаходка праляжала ў зямлі ад часоў І Сусветнай вайны. Цяпер яна абясшкоджаная.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

### Прыемна за калег

У абласным конкурсе, прысвечаным Дню абароны навакольнага асяроддзя, раённая газета "Працоўная слава" заняла I месца. Атрымала дыплом і грашовую прэмію.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Міску адсунулі далей

У канцы сакавіка «РГ» пісала пра стварэнне новай структурнай адзінкі - турысцкага клуба. На жаль, рэарганізацыя на карысць пайшла не зусім.

Абяцанага фінансавання турысты не атрымалі. У прыватнасці, пяць бюджэтных ставак, што перадалі з цэнтра пазашкольнай работы ў турклуб, засталіся без грашовай падтрымкі. Адпаведна, гэтыя работнікі не атрымліваюць заробку з 1 красавіка.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

### На яблыкі падаткаў, здаецца, не будзе

У адпаведнасці з урадавай праграмай "Развіццё пладаводства да 2000 года", у раёне, як і паўсюдна па Беларусі, пачалася інвентарызацыя пладова-ягадных пасадак у дзяржаўным, калгасным і прыватным сектары. Апошні падлік культурных парод дрэў і кустоў надарыўся 14 год таму.

Намеснік начальніка раённага аддзела статыстыкі **Ларыса Казлянок** запэўніла, што акцыя ніяк не звязаная з увядзеннем чарговых падаткаў на пладовыя дрэвы. Сэнс падліку ў высвятленні ўзроўню забяспечанасці насельніцтва яблыкамі ды грушамі. Па выніках інвентарызацыі дзяржава будзе планаваць надалей развіццё садовай гаспадаркі і галін, што ёй спадарожнічаюць.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

ТАКСАМА ПАДЗЕЯ

## Наша газета нарадзіла дзіця

***Чытачы Маладзечна і Вілейкі разам з гэтым нумарам «РГ» атрымалі спецыяльны чатырохстаронкавы ўкладыш пад назвай «Куфэрак», які рэдагуе Міхась Казлоўскі.***

«Куфэрак» прэтэндуе на тое, каб стаць пастаянным дадаткам да «РГ», дзе будуць друкавацца матэрыялы культурна-гістарычнага, літаратурнага напрамкаў. У сённяшнім «Куфэрку» можна знайсці публікацыю светлай памяці **Генадзя КАХАНОЎСКАГА** «Адвечнасць і імгненне» пра Маладзечаншчыну ў кантэксце беларускай культуры, **Алеся Бабіча** «Беларускія прозвішчы самабытныя», дачкі **Міколы Шчакаціхіна Алены** пра лёс свайго бацькі, выдатнага вучонага, расіяніна, які ахвяраваў сваё жыццё нашай Беларусі, артыкул **Ірыны Зубрыцкай** пра педагога-патрыёта **Янку Давідовіча** і іншыя.

Рэдакцыя плануе да канца года перайсці на пастаянны выпуск 12-старонкавай газеты для ўсіх сваіх чытачоў. Мы будзем радыя пазнаёміцца з вашымі прапановамі (новыя рубрыкі, напрыклад), заўвагамі і пачуць крытыку. Нават рэзкую.

*Мікола ГАЙДУК.*

За змену 10-тоннае «Палессе» можа пакласці ў валкі адразу 10 гектараў сенажаці. Праўда, калі не зломіцца...

## Гамельчукі дапамагаюць вілейчанам




***ВІЛЕЙКА. Горад плавіцца ад спякоты, вёска патанае ў водары траў – у разгары касавіца.***

Гэта толькі несвядомы прыватнік–аднаасобнік паранейшым махае касой, абкошвае дарогі, схілы канаваў і няўдобіцы, прадзіраецца праз кусты. Вызваленай энергіі калектыўнай працы падавай шырокія лугі і дагледжаныя сенажаці. А на іх без тэхнікі, відавочна, не абысціся. Але апошнім часам нямецкія комплексы ды айчынныя касілкі адчувальна патрапаліся, а на новыя не ў кожным калгасе знойдуцца мільярды. А надвор'е прыспешвае – давай, давай, кантралюючыя органы не спяць – варушыся! І як тут быць?

– А вось так! – сказалі ў Вілейскім раёне і запрасілі на дапамогу корманарыхтоўчы атрад з "Гомсельмаша". Са сваёй тэхнікай, вядома.

– Мы плацім, прапануем жыллё і харчаванне, а вы працуеце, заадно пабачыце, чаго вартыя вашы "Палессі".

Гамяльчане пагадзіліся: адна справа, калі на заводскіх стэндах агрэгаты круцяцца, і зусім іншая, калі ў полі, у сітуацыі, набліжанай да баявой. Як пакажаш сябе, "Мамука"?

*Заканчэнне на 3-й ст.*

СЕКТАР СПОРТУ

### Турнір стаў рэгіянальным

**БЕРАЗІНСКАЕ.** Чарговы міні–футбольны турнір вызначаўся шырокім прадстаўніцтвам гасцей. Акрамя чатырох каманд з Маладзечаншчыны на фінальныя гульні даехалі спартсмены з Мінска, Вілейкі, Ліды і Жодзіна. Відавочнымі фаварытамі выглядалі футбалісты завода лёгкіх металканструкцый.

*Заканчэнне на 6-й стар.*

ПАДПІСКА - 98

## Газета, якая зблíжае

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на месяц- 12 тыс. руб.; 3 месяцы- 36 тыс. руб.; 6 месяцаў- 72 тыс. руб.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА **Рэгіянальную газету**

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літара

63212 (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА **Рэгіянальную газету**

Кошт: падпіскі / пераадр. | Колькасць камплектаў

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)





ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



*СТАРЫ АЛЬБОМ*



У вілейчаніна **Кандрата Цярэнцьевіча Мароза**, якога добра памятаюць старажылы, доўгі час захоўваліся старыя паштоўкі з відамі. На некаторых, як і на гэтай, былі вестачкі да гаспадара ад родных і знаёмых, напісаныя ў розныя часы. На паштоўцы з відам пераходнага пункту руска-германскай граніцы (Вержбалова-Кірбаты), адрасаванай Кандрату Марозу ў Вільню яшчэ перад першай Сусветнай вайной, было прывітанне ад брата:

*г. Вильна, Шкаплерная улица, д. Каравая кв. 2. Кондуктору Кондрату Терентьевичу Морозу.*

*Дорогой братец, деньги Твои, 6 рублей, получил, за что сердечно благодарю. От жены получил письмо, где сказано, что та шлет мне 5 руб. Теплаго белья мне не нужно. Быть может я попрошу Тебя телеграммой приехать ко мне, то ты не должен беспокоиться, я хочу только видеться с Тобой.*

ФОТА З АЛЬБОМА БАРЫСА МАНЦЭВІЧА.

*КУЛЬТУРА*

# Да свята дзяцінства

АШМЯНЫ. **Святлана Завадская** заняла I месца ў конкурсе эстраднай песні, што праводзіўся ў Мастах на фестывалі дзіцячай эстраднай творчасці "Масты надзеі".

Сем іншых удзельнікаў, што прадстаўлялі раён, атрымалі званні дыпламантаў.

Шоў–праграма "Міні–міс–98" (удзельнікі – выхаванцы дзіцячых садкоў) стала амаль што самай цікавай і забаўляльнай у праграме свята дзяцінства, што праводзілася 1 чэрвеня.

# З чэрвеньскай афішы РДК

ВАЛОЖЫН. Дзень прызыўніка будзе праводзіцца 13 чэрвеня сумесна з ваенкаматам, маладзёжным аддзелам.

На спектакль **М. Задорнава** "Таполевая завея" нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы гледачы запрашаюцца 18 чэрвеня.,

"Прыміце нашы віншаванні" – праграма–ушанаванне "Ад усяе душы" запросіць медыцынскіх работнікаў горада і раёна 19 чэрвеня ў мясцовы рэстаран "Іслач".

# Перад фестывалем

МАЛАДЗЕЧНА. У абласным свяце "Траецкі фэст" (праводзіўся 7 чэрвеня на Случчыне) бралі ўдзел народныя фальклорныя калектывы "Маркаўчанка" (кіраўнік **Вера Зікунова**) і "Крынічанька" (кіраўнік **Валянціна Данілевіч**). Абодва калектывы атрымалі званні дыпламантаў.

**Уладзімір Фаменка** з Турэц–Баяраў заняў I месца ў конкурсе майстроў па лозапляценні.

Народны калектыў Чысцінскай дзіцячай музычнай школы "Сакавінка" (кіраўнік **Валерый Сальнік**) атрымаў ганаровую грамату і грашовы падарунак за ўдзел у заключным абласным канцэрце фестывалю "Беларусь – мая песня" (праводзіўся 31 мая ў Мінску).

На абласное свята "Дрэва жыцця", што мае адбыцца 20 чэрвеня ў Капылі, запрошаны майстар–рэзчык па дрэве (манументальная скульптура) **Анатоль Лавор** (раённы цэнтр рамёстваў). Адметнасць конкурсу, у якім ён возьме ўдзел, заключаецца ў тым, што праца будзе адбывацца на вачах у гледачоў і журы.

АШМЯНЫ. Народны ансамбль песні "Жытніца", узорны дзіцячы калектыў "Званочкі", ансамбль цыганскай песні "Джана Рома", чытальнік **Віктар Чаплінскі** былі ўключаныя ў праграму абласнога канцэрта фестывалю "Беларусь – мая песня" і паспяхова на ім выступілі. Віктар Чаплінскі і ансамбль цыганскай музыкі будуць прадстаўляць вобласць 3–4 ліпеня на заключных рэспубліканскіх мерапрыемствах фестывалю "Беларусь – мая песня".

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

*КУЛЬТУРА*

# Прыцягненне людской душы

***Менавіта яно ды захапленне мастацкім словам сабралі ў гарадскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў прыхільнікаў творчасці празаіка Андрэя Федарэнкі і паэта–барда Валерыя Пазнякевіча (радкі з песні Валерыя і вынесены ў назву гэтага артыкула).***

Арганізатар і вядучы сустрэчы **Міхась Казлоўскі** назваў Федарэнку самым, бадай, таленавітым пісьменікам Беларусі маладога пакалення. І згадаў ягоныя аповесці "Шчарбаты талер", "Цунг–цванг", апавяданне "Бляха". Аб чым яны, як напісаныя, можна меркаваць, толькі прачытаўшы творы. Чаго вам і жадаю. А за кампанію пазнаёміцца і з вершамі Пазнякевіча, якія друкаваліся ў беларускіх часопісах і перыядычных выданнях. Для прыкладу:

*Калі кружыць*
*па–над хатай*
*Белы бусел –*
*Будзе болей*
*Беларусаў у радні.*

Так, Беларусь і яе народ у цэнтры творчасці абодвух аўтараў. І Андрэй Федарэнка, і Валерый Пазнякевіч – дзеці вёскі, адсюль глыбокае разуменне яе праблем; хрышчаныя Чарнобылем – першы з Мазырскага, другі – з Лунінецкага раёнаў, аднолькава ўстрывожаныя стаўленнем беларусаў да гістарычнай спадчыны і роднай мовы... Пра ўсё гэта і гаварылі госці. А яшчэ спявалі песні: самотныя – ва ўнісон прыкраму дажджу, аптымістычныя – бо перакананыя, што станем мы людзьмі звацца.

*Віталь ПАШУК.*

*ДА 610–ГОДДЗЯ МАЛАДЗЕЧНА*

# Дзеці без дзяцінства?

## Пра Дыснейлэнд мараць адзінкі

***МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтрам эстэтычнага выхавання падлеткаў і метадыстам Ларысай Сарокінай праведзенае анкетаванне трэцякласнікаў сярэдніх школ №3, 5, 7, 10, а таксама іх бацькоў.***

### Тваё любімае месца ў горадзе

(адказваюць школьнікі)

50% - гарадскі парк

10% - свой мікраараён, дом

10% - цэнтральная плошча, бо там пад Новы год стаіць прыгожая ёлка

8% - рынак, магазіны, ларкі

4 чалавекі назвалі школу, 3 - музей, тэатр, 3 - кінатэатр «Радзіма», 1 - бібліятэку.

### Каб ты быў начальнікам, што б зрабіў для горада?

**Юля Місевіч**, СШ №7:

- Я пабудавала б дом для бяздомных жывёл. Іх бы там частавалі мясам, малаком і не кідалі па іх камянямі.

**Света Петух**:

- Усіх забойцаў я пасадзіла б у турму. Сіротам раздала б грошы ці падарункі. А таксама адзенне.

**Алена Мікульская**:

- Я пабудавала б больш прыгожых дамоў і фірмаў.

**Раман Касінскі**:

- Адкрыў бы многа новых бясплатных атракцыёнаў.

21 школьнік пабудаваў бы новыя жылыя дамы, забяспечыў бы ўсіх жыллём.

9 - пасадзілі б многа зелені на вуліцах.

12 - пабудавалі б дамы для жабракоў.

9 - павысілі б зарплату бацькам.

Пра Дыснейлэнд мараць толькі 4.

### Удзел дарослых у духоўным развіцці свайго дзіцяці

- Для духоўнага развіцця Ігара мы возім яго па розных месцах, гарадах, краінах. Неаднойчы былі ў Белавежскай пушчы, Брэсцкай крэпасці, Камянецкай Белай Вежы. У Познані наведалі заапарк, Любліне - былы канцлагер Майданек. З татам Ігар быў таксама ў Германіі. На жаль, культурныя ўстановы горада наведваем мала.

- Ходзім разам у бібліятэку, глядзім фільмы, многа размаўляем.

- Калі ў прэсе чытаю нейкі артыкул, які мае дачыненне да сына, раю яму прачытаць.

Дарослыя прапануюць стварыць дзіцячую гарадскую газету, адкрыць дзіцячае кафэ ці наогул цэнтр, каб у выхадныя кожны мог знайсці справу па душы (кіназала, спартыўная зала). Адзначана, што не праводзяцца ў горадзе спартыўныя мерапрыемствы.

19 бацькоў водзяць дзяцей у тэатры, 24 - у кінатэатр «Радзіма», 5 - наведваюць выстаўкі мастакоў, што праходзяць у бібліятэках, 6 - музей.

У анкетаванні ўзялі ўдзел 90 школьнікаў і столькі ж бацькоў.

*Аддзел інфармацыі.*

*ЛЕТА*

# Не толькі адпачынак

***ВАЛОЖЫН. Праблема адпачынку школьнікаў вырашылася надзвычай удала. Калі раней быў адзін раённы летнік "Арляня" на базе Сакаўшчынскай школы, то сёлета колькасць летнікаў павялічылася.***

Летнікі адкрыліся ў Падбярэззі, Гародзьках на базе мясцовых школ. Дзяржава выдаткоўвае на кожнае дзіця 1 млн 800 тыс. Ужо на рахунак аддзела адукацыі пералічана 1 мільярд 279 млн. 500 тыс. рублёў – на аздараўленне дзяцей Валожыншчыны. Бацькам жа пуцёўкі абыдуцца ў 250–260 тысяч.

Таксама адкрываецца летнік санаторнага тыпу на базе Вішнеўскай участковай бальніцы. З ініцыятывай выступіла ўрач **Людміла Рубан**. А ў вайсковай часці – летнік ваенна–спартыўны. Будуць у ім толькі хлопцы 7–9 класаў ва ўмовах пражывання, набліжаных да салдацкіх.

Акрамя таго, у 16 школах працуюць летнікі з дзённым знаходжаннем дзяцей. Двухразовае харчаванне, праграма адпачынку каштуе бацькам 90 тыс. за 21 дзень.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

***ВІЛЕЙКА. У адукацыйным аздараўленчым цэнтры "Надзея – XXI стагоддзе", што знаходзіцца ў вёсцы Будзішчы, прайшоў трохдзённы форум "Жыццё пасля Чарнобыля".***

Сярод удзельнікаў былі госці з замежжа. Нават з краіны Узыходзячага Сонца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

***МАЛАДЗЕЧНА. Шматлюдна ў дзіцячай паліклініцы ля кабінета лагапеда. Дзеці ўладкоўваюцца ў садкі, школы. Па словах лагапеда* Ірыны Клокель, *з пачатку года толькі праз кабінет прайшла тысяча дзяцей.***

Звыш 500 моўнай паталогій выяўлена пры аглядах у гарадскіх дзіцячых садках. Існуе тэндэнцыя павелічэння колькасці наведвальнікаў з дэфектамі мовы, псіхічнымі адхіленнямі. Пры неабходнасці ў той жа паліклініцы праводзяцца індывідуальныя заняткі з маленькімі грамадзянамі (час і дзень выбіраюць бацькі), а таксама заняткі ў спецыялізаваных групах д/садкоў №26, 28, 35, дзіцячым садку №2.

*Аддзел інфармацыі.*

ЗАПРАШАЮЦЬ НАВУЧАЛЬНЫЯ УСТАНОВЫ

*САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА*

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-23.*

## Не, гэта не Рыя-дэ-Жанейра

Пра работы вялікіх мастакоў аўтар згадваў ужо. Ёсць тут творы не надта вядомых людзей, але яны ўражваюць. Вось на карцінах польскай мастачкі чалавечыя постаці намаляваныя без галоваў.

- Ёй было 7 год, калі прыйшлі фашысты,- гаворыць экскурсавод,- затым яна жыла пад рускай акупацыяй, таму праз усю творчасць праходзіць тэма канцлагераў.

## ВДНГ па-амерыканску

Асобна прадугледжана месца для выстаўкі дасягненняў сельскай гаспадаркі Аёвы. Не такой, зразумела, як у нас. Адзін з экспанатаў асабліва прыцягвае ўвагу наведвальнікаў: штогод жанчына лепіць з масла карову і дзецям падабаецца націскаць кнопку на ёй (карова гаворыць з нямецкім акцэнтам нешта пра смачнае малако).

Вызначаюцца "самыя-самыя" свіння, карова, бык. Весялей усё праходзіць, словам.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*



*З возера №1 (амерыканскі мастак).*



*Селянін з паголенымі валасамі (французскі мастак).*

| МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку: | | | |
|---|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
| | | 3.06 | 10.06 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 92 | **90** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 295 | **адсутн.** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 89,7 | **89,8** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 28,5 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 30,2 | **27,9** |
| Грэчка | 1 кг | 30 | **30** |
| Алей | 1 л | 67 | **64** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 24,6 | **24,6** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **20** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 72 | **72** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 25 | **27** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | **25** |
| Лімоны | 1кг | 48 | **65,8** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 25 | **30** |
| Масла | 1 кг | 80 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **25** |
| Малако | 1 л | 10 | **10** |
| Бульба | вядро | 70 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25 | **30** |

## Рынак у Ждановічах

### 7. 06. 98

Печань ............ 99000
Сэрца ............ 80000
Лёгкае ............ 47000
Вымя ............ 40000
Рубец ............ 60000
Язык ............ 240000
Хвост ............ 60000
Ногі ............ 20000
Кілбаса ............ 275500
Сасіскі ............ 92800

Селядзец ............ 40000
Кур. кумпячкі . 93000
Алей ............ 70000
Маянэз ............ 18000
Кава "Пеле" .... 75000
Рыс ............ 31000
Грэчка ............ 32000
Цукар ............ 31000
Шпроты ............ 27000
Лімоны ............ 70000
Соус там. ......... 27000

## Сустрэча ў Нарачанскім краі



МЯДЗЕЛ. Амаль тыдзень доўжыўся абласны мастацкі конкурс–пленэр "Прыгажосць выратуе свет". Пяць цёплых летніх дзён юныя мастакі з многіх раёнаў Міншчыны бавілі час за мальбертамі і ў вясёлых кампаніях сяброў. Асабліва запомніліся дзецям высезды на прыроду, дзе пад кожным пад кустом тут табе і стол, і дом. І кладзіся на паперу фарбы, і паўставалі на малюнках цудоўныя краявіды – азёры Глубля і Глубэлька, Свір і Нарач, старадаўні парк у вёсцы Камарова. А па вечарах гучалі песні і ладзіліся дыскатэкі.

Арганізавалі конкурс–пленэр абласныя ўпраўленні культуры і адукацыі, абласны камітэт па справах моладзі, гасцінна сустракаў і апекаваў юных мастакоў і іх педагогаў калектыў Свірскага ПТВ–207. А вынікі конкурсу падводзіла аўтарытэтнае журы – адно імя яго старшыні, народнага мастака Беларусі **Уладзіміра Стальмашонка**, чаго вартае!

Раз'язджаліся удзельнікі пленэру з надзеяй аб новай сустрэчы тут, у Нарачанскім краі.

*Віталь ПАШУК.*

ФОТА МАРЫІ ЖЫЛІНСКАЙ.

*КУПЛЯЦЬ –НЕ КУПЛЯЦЬ*

## Гамельчукі дапамагаюць вілейчанам

*Пачатак на 1-й ст.*

Твой погляд, шаноўны чытач, зачапіўся за незнаёмае слова? Правільна: маёй мукай называюць вадзіцелі–выпрабавальнікі мадэрнізаваны комплекс "Палессе" КГ-6. І нездарма. Кабінай ён – нібы самалёт, знешне – чыста танк. Да таго ж, псуецца ў самы непажаданы час. Толькі, як сцвярджаюць гомсельмашаўцы, віна ў тым найчасцей сумежнікаў – няякасныя камплектуючыя пастаўляюць.

Старшыня калгаса "Рассвет", дзе ў той дзень працаваў атрад, уважліва прыслухоўваўся да тлумачэнняў гасцей. **Анатоль Якжык** мае намер набыць адзін комплекс разам з касілкай–плюшчылкай, але купляць за 2,5 млрд. руб. ката ў мяху не хоча.

Гэтак жа ўважліва, упэўнены, будуць прыглядацца да дзецішча гомельскіх машынабудаўнікоў і ў іншых гаспадарках раёна, дзе давядзецца працаваць атраду. Купяць–не купяць, а рэальную карысць павінны адчуць: за змену "Палессе" можа пакласці ў валкі адразу 40 гектараў сенажаці. Калі не зломіцца, натуральна.

*Віталь ПАШУК.*

ФОТА МАРЫІ ЖЫЛІНСКАЙ.



*НОВАЕ Ў СУВЯЗІ*

## Хочаце пазваніць – назавіце пароль

***МАЛАДЗЕЧНА. Працягваем знаёміць чытачоў з сучаснымі сервіснымі тэлефоннымі паслугамі. Расказвае начальнік аб'яднанага цэха РВЭС Ігар ТАЛКАЧОЎ.***

### Забарона зыходных выклікаў пад упраўленнем абанента:

выкарыстоўваючы гэтую паслугу, абанент можа задаць пароль для карыстання тэлефонам. Без ведання пароля ажыццяўляць сувязь з гэтага тэлефоннага нумара немагчыма. Можна пакінуць магчымасць набору без пароля спецслужбы – 01, 02, 03, 04, 05, 06, 07, 08. Пры жаданні паролем можна забараніць выхад на міжгароднюю ці міжнародную тэлефонныя сеткі.

### Вызначэнне нумара:

калі ў працэсе размовы з невядомым абанентам набраць пэўны код на клавіятуры, то ўваходны нумар зафіксуе камп'ютэр тэлефоннай станцыі. Калі звяжацеся з аператарам, даведаецеся, хто вам тэлефанаваў.

**ДЛЯ КАРЫСТАННЯ** згаданымі сервіснымі функцыямі неабходна мець тэлефонны апарат з танальным наборам. Цэны на такія апараты не вышэйшыя за звычайныя.

Маладзечна мае амаль паўтары сотні таксафонаў. Усе яны пераведзеныя на работу па магнітных картках. Цяпер скарыстаную картку можна абмяняць на новую з даплатай; чакаюцца таксама аднаразовыя карткі.

На мінскім заводзе «Агат» запушчана ў серыю новая мадэль тэлефона–аўтамата. Тэлефанаваць з іх можна будзе не толькі па горадзе, але і нават за мяжу. Даведкі па міжгародняй і міжнароднай сувязі вы можаце атрымаць па тэл. у Маладзечне 5–15–46.

Адзін з самых танных відаў сувязі – тэлеграф (адно слова ў межах рэспублікі каштуе 110 рублёў). Тэлеграмму можна адправіць і па тэл. 6-47-30 са свайго дамашняга тэлефона.

З 1992 года РВЭС аказвае паслугі пункта калектыўнага карыстання "Тэлефакс" - можна абменьвацца з абанентамі любой краіны пісьмамі, даведкамі, банкаўскімі дакументамі, дамовамі, чарцяжамі, фотаздымкамі. Перадача, да прыкладу, старонкі друкаванага тэксту ў Мінск будзе каштаваць не больш за 3000 рублёў.

Амаль сто маладзечанцаў карыстаюцца паслугамі радыётэлефоннай сувязі. Радыётэлефон можна ўстанавіць у кватэры, на дачы, у машыне.

У 1996 годзе мясцовы РВЭС увёў у дзеянне новае абсталяванне, што дало магчымасць аказваць самыя сучасныя і папулярныя ў свеце паслугі – электронная пошта і INTERNET. З дапамогай INTERNET можна не толькі прачытаць, але і ўбачыць навейшыя мадэлі аўтамабіляў, самалётаў, адзення, аргтэхнікі, бытавых прыбораў; можна пабываць у карцінных галерэях і музеях усяго свету; пагартаць кнігі і часопісы ў сусветна вядомых бібліятэках; апаратыўна даведацца пра вынікі міжнародных спаборніцтваў; прысвяціць сябе гульням, спорту, многаму іншаму.

Плата за падключэнне да электроннай пошты – 10 ум. адз., да INTERNET – 30, абаненцкая плата ў месяц складае 2 ум. адз. і 15 ум. адз. Адпаведна плюс невялікая плата за час работы па сетцы. Кансультацыі па тэл. 6-16-13, 5-19-32.

*Працяг будзе.*

*УРОКІ САМААБАРОНЫ*

# Вы штурханулі п'янога

***Статыстыка сведчыць: з кожным годам крымінагенная сітуацыя ў рэспубліцы пагаршаецца. Працэс крыміналізацыі ў грамадстве аб'ектыўны і звязаны, найперш, з эканамічным заняпадам краіны, які прыйшоў на Беларусь "усур'ёз і надоўга". Бязмэтавасць і бесперспектыўнасць жыцця, жабрацкія заробкі, паступовая дэбілізацыя і люмпенізацыя часткі насельніцтва, актуалізацыя крымінальнай рамантыкі ды іншае вядзе да безупыннага павелічэння колькасці злачынстваў. Права на абарону - натуральнае права любога чалавека, але грамадзянам даводзіцца вырашаць праблемы бяспекі практычна самастойна.***

Разгледзім, як дазваляецца абараняцца ў выпадку непасрэднага сутыкнення са злачынцам (злачынцамі).

Тэрміну "самаабарона" у беларускай юрыспрудэнцыі няма, ёсць "неабходная абарона", як правільная абарона ад грамадска небяспечнага замаху шляхам нанясення шкоды таму, хто робіць замах.

Для таго, каб неабходная абарона лічылася правамернай, трэба наяўнасць шасці ўмоў:

1. Замах мусіць быць грамадска небяспечным. Калі так, тады можна смела абараняцца нават ад нападзення малалетняга ці псіхічна хворага. Дазваляецца абарона ад непарад незаконных дзеянняў службовых асобаў (напрыклад, міліцыянераў). Гэта ўсё не датычыцца толькі малазначных замахаў (стральба ў людзей, якія нешта крадуць з градкі, будзе кваліфікавацца як злачынства). Не дазваляецца абарона ад чалавека ў надзвычайнай неабходнасці. Напрыклад, вадзіцелю нельга "абараняцца" ад людзей, якія спрабуюць раненага пакласці ў машыну.

2. Замах мусіць быць наяўным, калі ўзнікла непасрэдная пагроза нападзення ці нападзенне пачалося. Таму, калі вы абкружаныя хеўрай разгарачаных люмпенаў, не варта высакародна чакаць, пакуль яны пачнуць здзекавацца. Закон дазваляе вам першым "атакаваць" (здзяйсняць неабходную абарону). Чым і як атакаваць - пра гэта асобная гаворка.

3. Замах павінен быць рэальным, а не ўяўным.

4. Нельга абараняць тое, што не абараняецца законам (напрыклад, самагонны апарат).

5. Шкода можа прычыняцца толькі таму, хто замахваецца.

6. Не павінна быць перавышэння межаў неабходнай абароны. Перавышэнне межаў неабходнай абароны - відавочная неадпаведнасць абароны характару і небяспецы замаху. Гэта найперш тычыцца сітуацый, калі наўмысна, асэнсавана наносіцца празмерная шкода (Неасцярожнае не караецца. Напрыклад, у выпадку, калі вы штурханулі п'янога, які чапляўся да вашае жонкі, а ён з-за празмернасці выпітага не ўтрымаўся на нагах, зваліўся і забіўся - адказнасці не будзе).

Не патрабуецца адпаведнасць сродкаў абароны сродкам нападу (калі злачынца хоча забіць, можна абараняцца, чым заўгодна і як заўгодна). Калі для вас будзе відавочна, што нападзенне скончылася, права на неабходную абарону спыняецца. Калі ж добрасумленна лічыце, што нападзенне працягваецца, - можаце абараняцца.

Напрыклад, аглушылі злачынцу, але мяркуеце, што гэта не гарантуе вам бяспекі, бо нападзенне відавочна не спынілася, тады можна прыняць меры для далейшае нейтралізацыі праціўніка.



*У выцвярэзніку.*

ФОТА IREX/PROMEDIA

Такім чынам, галоўнае, каб абарона адпавядала характару і небяспецы нападзення. Нават калі перавышаныя межы неабходнай абароны, адказнасць за перавышэнне настае толькі ў трох выпадках: смерці таго, хто нападае, яго цяжкае ці меней цяжкае цялеснае пашкоджанне.

Пра тое, чым можна абараняцца і якія сродкі абароны дазваляецца насіць з сабой, - наступным разам.

*Вацлаў ПЛЕЧКА, Маладзечна.*

КУФЭРАК N 1

Спецыяльны культурна-гістарычны ўкладыш да «Рэгіянальнай газеты»

# Далучымся да роднага слова

*Такі ўжо лёс напаткаў нашу краіну, што ў сілу вядомых падзей прайшла асіміляцыя беларускага народа з рускім і ў выніку адбылася амаль страта беларускай мовы і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. У значнай часткі беларусаў выпрацаваўся нацыянальны нігілізм – нежаданне і нават адмаўленне ведаць родную мову, нежаданне размаўляць на ёй. Таму стала пад пагрозай пытанне аб беларускай нацыі. Бо, згодна з "Слоўнікам рускай мовы" С.І.Ожэгава (М., "Русский язык", 1984, с.340) "Нация – исторически сложившаяся общность людей, возникшая на базе общности языка, территории, экономической жизни и психического склада, проявляющегося в общности культуры." І таму ёсць усе падставы для таго, каб сцвярджаць: Ёсць мова – ёсць народ, ёсць нацыя, ёсць краіна. Няма мовы – няма народа, няма нацыі, няма краіны.*

І нельга не пагадзіцца з Васілём Быкавым наконт таго, што "Нельга стварыць нешта вартае, калі ты не любіш сваю зямлю, не паважаеш і не засвойваеш духоўны скарб продкаў: родную мову, культуру, традыцыі."

Задумаемся, шаноўныя беларусы: Хто мы такія? Што мы за беларусы? Адкуль нашы карані? Дзе нашы нацыянальныя гонар і годнасць? Дзе наша нацыянальная самасвядомасць? Чаму мы такія абыякавыя, зачарствелыя да сваёй Радзімы, да сваёй роднай, такой мілагучнай мовы?

Беларусы! Нам трэба прачынацца ад "спячкі", трэба стрэсці з сябе абыякавасць да свайго нацыянальнага адраджэння, павярнуцца з павагай да сваіх нацыянальных вытокаў, выпрацаваць у сябе патрэбу размаўляць на роднай мове. Гэта трэба ўсім добра ўсвядоміць, бо інакш мы не будзем мець пашаны ў свеце. Без гэтага немагчыма наша нацыянальнае адраджэнне і мы будзем яшчэ больш панікаць на гэтай зямлі як жывая істота.

Сродкам нашага выратавання ад выраджэння і знікнення з сусвету, сродкам яднання нацыі з'яўляецца аб'яднанне вакол нацыянальнай ідэі – ідэі нацыянальнага адраджэння пад сцягам вольнай, суверэннай і незалежнай Беларусі, ідэі неабмежаванай любові да сваёй зямлі, глыбокай павагі да роднай мовы, гісторыі, культуры, традыцый і звычаяў народа.

Праз веданне роднай мовы, размаўленне на ёй мы зможам адчуць сябе сапраўднымі беларусамі, зможам на гэтай аснове падняць сваю выхаванасць, культуру, нацыянальную свядомасць, гонар і годнасць. Бо мова – сродак зносін, душа народа, аснова яго культуры! З упэўненасцю можна сцвярджаць, што калі мы адчуем сябе народам, нацыяй, калі будзем думаць і размаўляць на роднай мове, калі ўсвядомім свае нацыянальныя гонар і годнасць, набудзем пачуццё беларускасці, то мы не дазволім сабе нявыхаванасці, бескультур'я, нецярпімасці, грубасці, брыдкаслоўя і станем больш выхаванымі, культурнымі, цывілізаванымі, высакароднымі, спагадлівымі. Інакш кажучы, ў гэтым выпадку стане магчымым і адбудзецца наша нацыянальнае адраджэнне, і мы заваюем павагу ў свеце як народ. Гэта трэба зрабіць тым больш таму, што для размаўлення на роднай мове сродкаў не трэба. Трэба проста скінуць з сябе ляноту, абыякавасць, прымусіць сябе чытаць беларускія кнігі, газеты, часопісы, праслухоўваць радыё – і тэлеперадачы на роднай мове, задумвацца, прыслухоўвацца да гутаркі іншых, успамінаць, запамінаць і ўжываць пры гэтым родныя словы. І калі жаданне ведаць родную мову, штодзённа карыстацца ёю стане ўнутранай патрэбай беларусаў, калі беларуская мова ўсталюецца ў штодзённае жыццё, тады мы станем паўнацэннай нацыяй, паверым у свае сілы, станем сябе паважаць і, як нацыя, адчуем адпаведную павагу ў свеце і родная Беларусь зойме пачэснае месца ў сусветнай супольнасці народаў – свой "законны пасад".

**Б. БАРОВІЧ.**

СПАДЧЫНА

# Адвечнасць і імгненне

***Маладзечаншчына - адна з цікавейшых мясцін нашай беларускай культуры немалога мацерыка вялікага славянскага роду. Слова пра яе зямлю, людзей, гісторыю знаходзім у старых летаапісах, хроніках, дыярыушах, мемуарах і іншых помніках пісьмовай літаратуры Беларусі. Традыцыя павышанай увагі да родных мясцін развілася ў творчасці самых розных аўтараў.***

Калі ж заводзім гутарку пра беларускую літаратуру, то заўсёды пачынаем з Янкі Купалы. Гэта і натуральна. Тут нарадзіўся вялікі валадар думак і слова і тут яму найвялікшая пашана - у 1972 годзе ў яго Вязынцы адчыніўся мемарыяльны запаведнік.

Імя паэта не патрабуе прадстаўлення, яго ведае кожны школьнік. Праўда, камандзіры ідэалогіі доўгі час «дазіравалі» Купалава слова і многія творы нашага Гусляра не даходзілі да чытача. Зразумела, іх дазвалялася толькі крытыкаваць на ўсе лады, тым самым наносячы шкоду ўсёй літаратуры. У спецсховах ляжалі трагікамедыя «Тутэйшыя», паэмы «На куццю», «Калека», шматлікія патрыятычныя вершы. Чытаць нашага нацыянальнага паэта мы сталі амаль у поўным аб'ёме толькі на трэцім-чацвертым годзе перабудовы. Слова ж Купалы і сёння гучыць вельмі свежа і актуальна.

Чаго вам хочацца Панове?  
Які вас выклікаў прымус  
Забіць трывогу аб той мове,  
Якой азваўся беларус?  
Чаму вам дзіка яго мова?  
Паверце, вашай не ўкраў,  
Сваё ён толькі ўспомніў слова,  
З якім радзіўся, падрастаў.  
Цяпер і вы загаварылі,  
З апекай выйшлі, як з зямлі;  
А што ж дагэтуль вы рабілі?  
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Не адна толькі Вязынка благаслаўлёна імем Купалы, яго ўшанавала Яхімоўшчына, дзе ён жыў і працаваў у 1906-1907 г. г. Яго імя звязана з Маладзечнам, Гарадзілавам, Лебедзевам, Палачанамі...

Дарап нам і Якуб Колас, які яшчэ ў 1908 годзе гасціў у Мойсічах і Хажове, Слабодцы і Маладзечне. Бываў ён на Маладзечаншчыне і ў пазнейшыя часы, асабліва любіў адпачываць і пісаць на Удранцы, каля Радашковічаў.

Не забудзем, што летам 1911 года ў нашай ціхай Ракуцёўшчыне ствараў цэлыя цыклы паэзіі Максім БагдановіЧ, рыхтаваў свой зборнік паэзіі «Вянок». Ён знаходзіўся пад пільнай увагай людзей, каму ідэя адраджэння Беларусі была вышэй і даражэй за ўсё.

Вернемся ў часы старасветчыны, на некалькі стагоддзяў назад. У гожым гарадку з сямі вуліц, якім было Хоўхлава, у канцы 70-х-пачатку 80-х гадоў XVI ст. тут жыў вядомы беларускі гуманіст Сымон Будны. Працаваў над сваімі філасофскімі трактатамі, рыхтаваў да друку новыя кнігі. Назіраў за жыццём простага люду, найперш сялян, рамеснікаў, а таксама паваротлівых купцоў. Прыкладна ў той жа час жыў у недалёкіх адгэтуль Дубровах пры двары Глябовічаў, а таксама ў Заслаўі Ян Ласіцкі, які вывучаў беларускі фальклор, народныя стравы, адзенне, абрады і іншае з мясцовага быту сялян. Вынікам стала яго праца «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады...» (1582 г.). Некалькі гадоў жыў і працаваў у Маладзечне вядомы грамадскі і дзяржаўны дзеяч, літаратар-публіцыст Леў Іванавіч Сапега (1557-1633), які ўдзельнічаў у падрыхтоўцы і выданні Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. на беларускай мове. Прадмовай да гэтага выдатна распрацаванага збору законаў стала прамова Л. Сапегі, з якой ён выступаў на Варшаўскім сейме. Гэта ўзор беларускай аратарскай прозы XVI ст.

З заходнеўшанскім краем звязана жыццё і многіх іншых цікавых людзей. Адны тут сталі працавалі, а нехта толькі спыніўся праездам, кіруючыся ў вялікую дарогу, як, напрыклад, знакаміты Францішак Скарына. Ён праездам мог пазнаёміцца з Лебедзевам, Маладзечнам, Красным, Радашковічамі. Хутчэй за ўсё, гэта здарылася ў 1523 годзе, калі ён накіроўваўся з гуманістычнай місіяй з Вільні ў Маскву. Іншыя вандроўнікі нават пакінулі свае нататкі-уражанні пра наш край. У асноўным гэта былі падарожнікі з розных краін Заходняй Еўропы.

З Маладзечаншчынай звязаны жыццё, творчасць дыпламата і кампазітара Міхала Агінскага. Сваёй музыкай ён вельмі блізкі да беларускага фальклору. Гэта і натуральна, бо ён чуў тут песні жнеек, назіраў народныя абрады, гутарыў з сялянамі. Назапашваў на гэтай зямлі жыццёвы і творчы вопыт.

Тут караняцца вытокі творчасці дзеячаў культуры, якія ў асноўным, пісалі папольску, як, напрыклад, Т. Зан, А. Тышынскі, Л. Ходзька, Ю. Гарайн, браты Б. і Ул. Дыбоўскія. Праўда, апошні больш ўвагі надаваў беларускаму фальклору, народнай песні, якіх ім было запісана нямала. З цяплом у душы пісаў пра Маладзечна паэт Ул. Сыракомля. Вывучаў становішча татараў на Беларусі выпускнік Маладзечанскага павятовага вучылішча Антон Мухлінскі, адзначаючы той факт, што мясцовыя татары даўно зжыліся з беларусамі і карыстаюцца мовай апошніх, нават свае святыя кнігі пішуць па-беларуску. Зрэшты, заўважым ад сябе, што і яўрэі таксама не толькі размаўляюць па-беларуску, хоць часам з акцэнтам, але і пішуць па-беларуску, як, напрыклад, вядомы Змітрок Бядуля.

У XIX ст. вывучалі Маладзечаншчыну з погляду археалогіі А. Кіркор, браты Тышкевічы, В. Шукевіч, А. Спітка і іншыя. Этнаграфіяй краю цікавіліся Ю. Крачкоўскі, М. Нікіфароўскі, І. Насовіч. Дарэчы, апошні пакінуў каштоўныя ўспаміны пра Маладзечна, аб прагімназіі, дзе ён працаваў, а таксама вершы на беларускай мове. Вясельныя абрады ў ваколіцах Маладзечна і Радашковічаў запісвала С. Кавалеўская, якая жыла ў Малых Бакштах. Цікавасць да краю прывіваў маладзечанскім семінарыстам настаўнік К. Вераніцын, мяркуемы аўтар знакамітай паэмы «Тарас на Парнасе». Ён таксама быў пільным да слова народнага, да песні.

Блізкімі былі дарогі Маладзечаншчыны В. Дуніну-Марцінкевічу, Ф. Багушэвічу, Я. Лучыну, якія тут не раз праязджалі, мелі знаёмых і сяброў. Даражылі ўбачаным і пачутым, што рэзанансам адгукнулася на іх творчасці.

У пачатку XX ст. значны ўплыў зрабіла «Наша ніва», да якой цягнуліся сяляне ўсіх вёсак, ды і рабочыя, рамеснікі ўсёй Беларусі. Сваёй роднай газетай лічылі «Нашу ніву» і маладзечанцы. Душой адраджэння Беларусі сталі браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, маладзейшы Браніслаў Тарашкевіч, а таксама Аляксандр Уласаў. Апошні нейкі час быў рэдактарам беларускай газеты. Жыў ён у Мігаўцы каля Радашковічаў, арганізоўваў многія беларускія спектаклі. Дзякуючы яму, ў Радашковічах была пастаўлена «Паўлінка». Арганізоўваў беларускія навагоднія ёлкі для дзяцей. Арганізаваў выданне часопісаў «Саха» і «Лучынка». Ён і ў часы буржуазнай Польшчы змагаўся за адкрыццё беларускіх школ, за адраджэнне нацыянальнай культуры. А. Уласаў першым прыйшоў у маладзечанскую савецкую газету, каб дапамагчы на справе яе станаўленню, але не ведаў патрыёт, што яго шчырасць будзе растаптаная энкавэдзістамі. Неўзабаве беларускі слуга слова быў знішчаны фізічна. Наш абавязак - аддаць належнае гэтаму чалавеку, яго памяці.

Немалы ўклад для адраджэння слова беларускага зрабілі маладзечанскія выхаванцы семінарыі: паэт Міхась Чарот, драматург Касьян Вясёлы, спявак Міхал Забэйда-Суміцкі, мастак Павел Южык, журналісты-літаратары Андрэй Капуцкі, Мікола Шыла, грамадскія дзеячы Флягонт Вальнец, Сымон Рак-Міхайлоўскі, тэатральны дзеяч Кастусь Пуроўскі...

Былы дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі А. Ярушэвіч збіраў тут слоўнік беларускай мовы, на жаль, пазней страціўся яго рукапіс. Былыя выпускнікі семінарыі А. Зяновіч і В. Нафрановіч самі бралі ўдзел у лінгвістычнай экспедыцыі па запісу народных слоў.

Яшчэ раз пра Радашковічы. Тут жыў і працаваў у аптэцы цудоўны знавец і цаніцель слова роднага Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), пачынальнік сучаснай беларускай прозы. У 1895 годзе ў Радашковічах нарадзілася яго дачка Ванда Лявіцкая, таксама беларуская пісьменніца. Яна выйшла замуж за выпускніка Маладзечанскай семінарыі Язэпа Лёсіка, будучага акадэміка АН БССР, беларускага мовазнаўца.

У 1922 годзе ў Радашковічах адчынена была, зноў жа дзякуючы намаганням А. Уласава, беларуская гімназія імя Ф. Скарыны. Тут выкладалі такія сумленныя педагогі як Я. Драздовіч, С. Кароль, Я. Гаўрылік і іншыя. Вучылася таксама нямала патрыётаў, у тым ліку і Максім Танк. Дапамагаў гэтай гімназіі ўжо вядомы тады Браніслаў Тарашкевіч. Па яго першай беларускай граматыцы, выдадзенай у 1918 годзе, вучыліся многія школьнікі.

Цяжка пералічыць усіх тых, хто чымнебудзь звязаны з маладзечанскай зямлёй і хто так шчыра ставіўся да крыніц духоўнага жыцця народа. У 1920-х жыў у Маладзечне Пётр Мятла, які, гутарыўшы з мястачкоўцамі, прыкладаў руку да сэрца і прамаўляў: «Не аддавайце сваіх дзетак у польскія школы, а ў беларускія. Будзе жыць Беларусь? Да душы кажу». Верыў чалавек і нездарма. І не толькі ён адзін. Верылі ў гэта фалькларыст і кампазітар Антон Грыневіч, пісьменнік Максім Гарэцкі, паэт Максім Багдановіч, мастак Раман Семашкевіч (Лебедзева), Станіслаў Шымановскі (Беніца), паэт і падпольшчык Алесь Салагуб (Лебедзева), паэт Юльян Сергіевіч (Юраўшчына), Юзя Шчупак (Радашковічы), хто ў той ці іншай меры звязаны з духоўным жыццём Маладзечаншчыны.

Повязь пакаленняў патрыётаў слова не перарвалася, нягледзячы нацяжкія варункі часу. Не зганьбілі, не здрадзілі справе слова тыя, хто жыў і жыве тут у пасляваенны час: гісторык і літаратар Мікола Ермаловіч, дзеячы культуры Генадзь Цітовіч, Павел Каруза, Янка Давідовіч. Тут працавалі пісьменнікі Адам Мальдзіс, Аркадзь Чарнышэвіч, Яуген Рапановіч, Мікола Гроднеў, Іван Козел, Зінаіда Бандарына, Алесь Рыбак, Сцяпан Александровіч, Фёдар Янкоўскі, Рыгор Семашкевіч... Нельга не ўспомніць словам цудоўнага чалавека, патрыёта і змагара за роднае слова простага рабочага Уладзіміра Зянько (1926-1987). Ён марыў бачыць у Маладзечне беларускую школу, не цярпеў тых дырэктараў школ, хто сваімі рукамі адлучаў нашых дзяцей ад роднае мовы. Нягледзячы на сваю невысокую адукацыю Уладзімір Барысавіч пісаў вершы, запісваў фальклор. Ім створана кніга «Песні маёй маці». Гэта больш за трыста тэкстаў твораў фальклору, якія ён запісаў ад сваёй маці Зосі.

Ідзе зараз моладзь у літаратуру і таксама горнецца да матчынай мовы. Памажы ім божа!

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

З КАГОРТЫ ПЕДАГОГАЎ І ПАТРЫЁТАЎ

# Вяртанне Давідовіча

***Мядзельшчына. Край блакітных азёр і шумлівых бароў. Край славутых паэтаў і артыстаў, навукоўцаў і мастакоў, педагогаў і музыкантаў. і проста шчырых адданых людзей сваёй зямлі. Крок за крокам гэты жывапісны куточак, як і ўся Беларусь, пачынае вяртаць з забыцця лепшых сваіх прадстаўнікоў – іх імёны, творы, лёсы. І як добры прыклад такіх памкненняў – імя Янкі Давідовіча (Івана Мікалаевіча Давідовіча), педагога, дзеяча культуры, чалавека, які прайшоў праз шматлікія жыццёвыя выпрабаванні, але не скарыўся ім, не здрадзіўшы сваёй зямлі, свайму народу.***

Некалькі год таму, калі пачаўся збор матэрыялаў для кнігі "Памяць", Мядзельшчыну наведаў доктар гістарычных навук, краязнаўца Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Падчас размовы аб кнізе ён зазначыў, што калі ў ёй нічога не будзе сказана пра Янку Давідовіча, лічыце, што яна не напісаная.

Гэтыя словы сталі наказам славутага краязнаўцы Беларусі Мядзельскай зямлі.

Нарадзіўся Янка Давідовіч у мястэчку Мядзел 6 кастрычніка 1909 года у сям'і шаўца Давідовіча Мікалая Іпалітавіча. Праз 5 год распачалася І сусветная вайна, якая на беларускія землі прынесла гора, нястачу, сіроцтва. Не абмінула яна і сям'ю Давідовічаў. І ўжо тады на плечы маленькага хлопчыка і яго сястры Вольгі (нарадзілася ў 1899 г., рэпрэсіравана ў 30–я г.г.) выпала першае цяжкае выпрабаванне. Яны страцілі самых дарагіх людзей – бацькоў. На дапамогу, каб выжыць, перанесці гора, адгукнулася сям'я Чарняўскіх (сваякі Мікалая Іпалітавіча) з Маладзечна, якая забрала дзяцей да сябе і занялася іх выхаваннем.



Маладзечна ў тыя часы ўяўляла сабой невялікае мястэчка, цэнтрам якога была Рыначная плошча, вакол якой гуртаваліся асноўныя будынкі – Свята–Пакроўская царква, сінагога, саматужныя шавецкія і кравецкія майстэрні. Асноўныя навучальнымі ўстановамі з'яўляліся яўрэйская школа і дзве пачатковыя польскія, адну з якіх і скончыў Янка Давідовіч. Пра беларускую нават не было і размовы не толькі ў Маладзечна, але паўсюдна на Беларусі. Адной са старэйшых устаноў гімназічнага тыпу, дзе лунаў беларускі дух, дзе гучала крынічная мова бацькоў і адчувалася прыналежнасць да свайго народа, была Віленская беларуская гімназія, у якую ў 1927 годзе, дзякуючы родным братам бацькі, паступіў Я. Давідовіч.

Каму пашчасціла вучыцца ў гэтай установе, назаўсёды станавіўся шчырым, адданым патрыётам сваёй радзімы. І не магло быць інакш, бо там выкладалі лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі – Браніслаў Тарашкевіч, Адам Станкевіч, Максім і Леаніла Гарэцкія, Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Сымон Рак–Міхайлоўскі, Рыгор Шырма і інш. Янку Давідовічу давялося слухаць лекцыі дырэктара гімназіі Радаслава Астроўскага, якія вызначаліся высокім узроўнем выкладання, даступнасцю перадачы матэрыялу; Антона Луцкевіча, які, будучы дырэктарам Беларускага музея ў Вільні, часта на заняткі прыносіў цікавыя экспанаты і захапляюча распавядаў пра гістарычнае мінулае беларусаў; ксяндза Адама Станкевіча, які сваімі размовамі аб духоўнасці, нацыянальнай свядомасці варушыў маладыя юнацкія душы, і іншых выкладчыкаў, аб якіх ён пазней будзе згадваць з цеплынёй і ўдзячнасцю. Віленская беларуская гімназія была з гуманітарным ухілам і таму вялікае значэнне надавалася філалагічным дысцыплінам, акрамя літаратуры, абавязкова вывучалася чатыры мовы (беларуская, польская, лаціна, нямецкая або французская). Акрамя навучальнага працэса, значнае месца адводзілася выхаваўчай рабоце. У гімназіі дзейнічалі танцавальныя і тэатральныя гурткі. Менавіта тады Янка Давідовіч пазнаёміўся з Рыгорам Шырмай, які працаваў выкладчыкам спеваў і арганізаваў вучнёўскі хор. Значна пазней яны будуць сустракацца і ўспамінаць гады, звязаныя з Беларускай гімназіяй у Вільні, той дух шчырасці, узаемапавагі, які лунаў паміж вучнямі і выкладчыкамі і, безумоўна, вечарыны, прысвечаныя абвяшчэнню Беларускай Народнай Рэспублікі, якія ладзіліся штогод 25 сакавіка. Тады гучаў вучнёўскі аркестр, спяваў хор, дэкламаваліся вершы, выступаў танцавальны гурток. Гады вучобы ў гімназіі, як пазней будзе згадваць сп. Давідовіч, былі адныя з лепшых, хоць не абышлося і без цяжкасцей. Яны былі гадамі станаўлення, пошуку свайго месца ў жыцці. Вучыўся Янка Давідовіч добра. Стараўся спасцігнуць кожны прадмет, але душа і сэрца ўсё больш і больш схіляліся да літаратуры. І ўжо праз два гады яго мара здзейснілася, ён стаў студэнтам першага курса.

Як ведама, Віленскі ўніверсітэт быў адным з найстражэйшых навучальных устаноў у Еўропе (заснаваны ў 1579 годзе польскім каралём Стэфанам Баторыем). У ім у розныя часы вучыліся выдатныя прадстаўнікі беларускай і польскай навукі і культуры. Там свята захоўваліся ўсе даўнейшыя добрыя традыцыі. Гады вучобы сп. Давідовіча ва ўніверсітэце супалі з барацьбой беларускай грамадскасці з польскімі ўладамі за існаванне беларускіх школ і асветных арганізацый. Ён не застаўся ў баку, а прымаў актыўны ўдзел, абараняючы беларускае слова, беларускае адраджэнне.

Пасля заканчэння ўніверсітэта (1938 г.) Янка Давідовіч, як найбольш перспектыўны малады спецыяліст–мовавед быў прыняты ў родную Віленскую гімназію выкладчыкам беларускай літаратуры, дзе працаваў да Вялікай Айчыннай вайны. Падчас вайны ён пераязджае да сваякоў у Маладзечна. Праз год сп. Давідовіч паступае выкладчыкам беларускай літаратуры ў Маладзечанскую адміністрацыйна–гандлёвую школу, якую стварыў Барыс Кіт, былы дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Дырэктар і яго спадвіжнікі дбалі не гэтулькі пра тое, каб падрыхтаваць работнікаў гандлю, колькі пра захаванне моладзі ад вывазу ў Нямеччыну і, відаць, самае галоўнае, – абудзіць, пашырыць нацыянальную самасвядомасць навучэнцаў. У першы год былі адчыненыя два курсы. Усяго планавалася трохгадовае навучанне. На кожны курс набіралася 15–20 чалавек ва ўзросце 15–19 год. Юнакі і дзяўчаты набіраліся з Маладзечанскага, Вілейскага, Ашмянскага, Радашковіцкага паветаў. Займаліся шэсць дзён у тыдзень, па 4–5 гадзін. Вывучаліся ўсе прадметы сярэдняй школы, а таксама бухгалтэрыя, таваразнаўства, права і інш. Усе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Прывітанне, як у самой школе і пры сустрэчы на вуліцы, як паміж навучэнцамі, так і настаўнікамі было "Жыве Беларусь!", у адказ "Жыве!". І як сведчаць былыя вучні А. Кананові з Ваўкавыска і Я. Касцюк з п. Аляхновічы Маладзечанскага раёна, "у школе поўнасцю адсутнічала ўсялякая палітызацыя. Ніякіх усхваленняў Гітлера і яго арміі, нам нічога не гаварылі аб нямецкім народзе і яго культуры, ні адзін немец не пераступаў парог школы... Не было ў нас ніякай крытыкі Сталіна і бальшавізму, а ў душы кожны з нас разумеў, што немцы павінны быць выгнаны з нашай зямлі". У школе сабраўся выключны педагагічны калектыў, усе настаўнікі добра валодалі беларускім словам, былі шчырымі беларусамі і добра разумелі, што дзяцей трэба вучыць, якія б войны і нястачы не абрушваліся на зямлю. Беларускую мову выкладала Вольга Пагуда; матэматыку – дырэктар школы Барыс Кіт, які цяпер стаў сусветна вядомым вучоным у галіне астранаўтыкі; гісторыю – дацэнт Мінскага ўніверсітэта Макарэвіч; гандаль і права – віленскі юрыст, доктар права Дзмітрыеў; музыку – Камароўскі, віртуоз–скрыпач, выпускнік Кіеўскай кансерваторыі. Згадваючы тыя часы, былыя навучэнцы школы з цеплынёй і ўдзячнасцю распавядаюць пра заняткі па беларускай літаратуры і яе выкладчыка Янку Давідовіча. Вось зноў некалькі радкоў з успамінаў былых навучэнцаў А. Кананові з г. Ваўкавыска і Я. Касцюка з п. Аляхновічы Маладзечанскага раёна: "А вось беларуская літаратура... Ні ў польскіх, ні ў савецкіх школах мы нічога падобнага не чулі. Не ведаю, хто і дзе складаў праграмы па літаратуры, але творы пісьменнікаў, што вывучалі на ўроках, былі падабраныя з добрым густам, з ідэйнай накіраванасцю. Мы даведаліся пра Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, Льва Сапегу, пра Вялікае Княства Літоўскае, пра Буднага, Цяпінскага, Кастуся Каліноўскага, пра беларускую літаратуру канца XIX–пач. XX стагоддзяў. Мы спявалі "Пагоню", "Люблю наш край", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і іншыя песні. І літаратура, і песні садзейнічалі развіццю нацыянальнай самасвядомасці і духоўнаму адраджэнню. А між тым, "гандлёўцы" усё гэта ведалі. І ведалі, дзякуючы шчыраў працы сп. Давідовіча, працы самааданай, не за грошы. Яго намаганнямі быў створаны драматычны гурток, які ставіў п'есы беларускіх пісьменнікаў на вечарах адпачынку ў школе, для жыхароў Маладзечна і яго ваколіц. Янка Давідовіч быў для нас прыкладам ва ўсім: у манеры гаварыць, ва ўменні слухаць. Заўсёды далікатны, сціплы, не памятаем выпадку, каб ён павысіў на каго голас. Выключна акуратны ў вопратцы, старанна прычосаны, гладка паголены. Адным словам, у ім было ўсё, што з першага позірку выдавала ў ім чалавека высакароднага, сапраўднага інтэлігента, чалавека высокай эрудыцыі, таму і ўрокі яго былі для нас як свята". Многія з былых навучэнцаў не без яго ўплыву зрабілі свой жыццёвы выбар, стаўшы настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры, як Т. Харэвіч, Т. Кананові, З. Сыракваш, Я. Касцюк. Я думаю, што не толькі яны, але многія выпускнікі Маладзечанскай адміністрацыйна–гандлёвай школы з цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць тыя часы, імёны ўсіх выкладчыкаў, якія дапамаглі прайсці праз нягоды часу і захаваць у душы дабро і чалавечую годнасць. Вясной 1944 года школа была зачыненая і Янка Давідовіч разам са сваёй жонкай Вольгай Сямёнаўнай Мароз паехалі да яе сваякоў на Пастаўшчыну. Гэта быді цяжкія часы. Многія выкладчыкі і студэнты гандлёвай школы трапілі ў ГУЛАГ, другія, каб выжыць, утойвалі той факт, што яны вучыліся або працавалі пры нямецкай акупацыі. Ёсць надзея, што з цягам часу будзе створаная праўдзівая гісторыя беларускай адукацыі ў ваенны час і дадзеная належная ацэнка дзейнасці тых людзей, якія самаахвярна служылі справе выхавання моладзі.

Праз усё жыццё сп. Давідовіч пранес адну існасць, што б ні здарылася, якія б войны не абрушваліся, моладзь павінна заўсёды вучыцца, бо яна – будучыня народа. Гэту існасць добра разумеў педагог–патрыёт і ўсё жыццё прытрымліваўся яе. Пастаўскай зямлі Янкам Давідовічам было аддадзена 28 год педагагічнай дзейнасці. Ён займаў розныя пасады. Пачынаў дырэктарам Рымкаўскай Народнай школы. І як вышэйшая ўзнагарода настаўніку – шчырая падзяка вучняў свайму дарагому дырэктару. Без хвалявання яе немагчыма чытаць. У ёй сказана: "З сумам і радасцю пакідаем Вас, дарагі Дырэктар. Сумам ахоплівае нашы сэрцы, што Вас, Вашу апеку над намі, мы ўжо назаўсёды астаўляем і адначасова ахоплівае нас радасць, што мы ўваходзм на новы жыццёвы шлях. Клянёмся, што ўсё, што Вы нам добрае далі, будзем гэта захоўваць і расціць. На кожным кроку, у кожным месцы, будзем цвёрда памятаць Вашы ўказы. Клянёмся, што выйшаўшы з Вашай апекі, мы старанна, колькі нам гэта будзе магчыма, будзем карыснымі свайму Народу, сваёй Бацькаўшчыне. Ведаем, што за час прабывання ў школе мы шмат, шмат прыносілі Вам прыкрасці, але Вы, як наш Бацька, даравалі нам.

Цяпер у апошні раз усе разам клічам "Прабачце!". Цяпер у апошні раз усе разам клічам "Дзякуй!". Разам з гэтым перадайце і ўсім нашым настаўнікам "Дзякуй!".

Затым была праца на пасадах інспектара РАНА, завуча, выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў Петрачскай НШ, Рэдуцкай сямігадовай, Схомінскай васьмігадовай, СШ №2 г. Пастаў і школе працоўнай моладзі. Паралельна Янка Давідовіч завочна вучыўся ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. Горкага (1951–1956), на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, бо дыплом выпускніка Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя быў страчаны падчас вайны.

Распавядаючы пра сп. Давідовіча, хацелася згадаць імя чалавека, які ўсё жыццё заставаўся яго верным, адданым паплечнікам ва ўсім – і ў працы, і ў думках, і ў сэрцы. А менавіта – яго жонку Вольгу Сямёнаўну Мароз, добрага чалавека, здольнага педагога. Яна таксама, як некалі Янка Давідовіч, скончыла Беларускую гімназію ў Вільні, затым Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Вольга Сямёнаўна, як і яе муж, прысвяціла сваё жыццё педагагічнай дзенасці, выкладаючы нямецкую і лацінскую мовы ў Пастаўскіх школах, а потым у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Пасля пераезду ў Менск, сп. Давідовіч па стане здароўя пакінуў любімую справу, але ён не мог сядзець склаўшы рукі. Захапіўся кветаводствам. Гадзінамі мог распавядаць пра розныя кветкі.

Безумоўна, кветкі былі не адзіным яго заняткам, было шмат сустрэч, знаёмстваў.

І заўсёды з прыемнасцю сп. Давідовіч згадваў аб сустрэчах, размовах, спрэчках з Народным паэтам Беларусі Максімам Танкам. Іх знаёмства працягвалася больш за 40 год.

27 лютага 1976 года не стала Янкі Давідовіча, чалавека, які проста жыў і шчыра выконваў свой абавязак педагога і патрыёта.

*Ірына ЗУБРЫЦКАЯ.*

ВЕРСІІ

# Войстам

***На маладзечанска-мядзельскім абшары шмат цікавых тапанімічных назваў, этымалогія якіх губляецца ў глыбіні стагоддзяў. Жылі тут некалі розныя народы і этнічныя групы. На адлегласці вякоў яны асімляваліся са славянамі, забыліся мовы і дыялекты. Таму назоў старажытнага паселішча Войстам на мяжы Смаргоншчыны і Вілейшчыны (Wojstom) выглядае загадкавым, таямнічым. Аднак нашчадкі таго народа, які даў гэты назоў, жывуць і сёння на далёкай поўначы. Таму, калі не цалкам, то з большай доляй верагоднасці, назоў Войстам можна вытлумачыць.***

Імя паселішча ўтрымлівае характэрны для некаторых фіна-угорскіх народаў канчатак - там. Паводле комі-пермяцкай мовы, «том» нясе ў сабе адмаўленне. Напрыклад, вольтом - неачышчаны, вортом - бязлесы. Што датычыць вытлумачэння кораня слова «войс», то неабходна зрабіць пэўную абумоўленасць. Справа ў тым, што ў мове комі ёсць два дыялекты, дзе назіраецца чаргаванне гукаў «л» і «в». Таму за аснову тлумачэння назвы Войстам я бяру слова «лыстом» - без хвоі, які не мае хвоі. Паводле маёй версіі - паселішча ўзнікла там, дзе не было хвойнага лесу, аднак гэта не выключае таго, што тады тут мог расці бярозавы гай ці дубрава. Адназначна можна сказаць: Войстам - назоў фіна-угорскага паходжання. Сэнс яго можна вытлумачыць з большай доляй верагоднасці. Дакладны сэнс слова, напэўна, згубіўся ў глыбіні вякоў, разам з асіміляцыяй народаў і моў, калі пачала фармавацца беларуская нацыя і яе мова.

***Уладзімір СКРАБАТУН,*** *краязнаўца, Глыбокае.*

СЛАЎНЫЯ СЫНЫ РАДЗІМЫ

# Лёс, аддадзены Беларусі

***З трыццатага верасня па трэцяга кастрычніка 1996 года на працягу чатырох дзён у Мінску і Маладзечне праходзілі юбілейныя мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю з Дня нараджэння майго бацькі, М. М. Шчакаціхіна, выдатнага беларускага вучонага-мастацтвазнаўцы.***

У першы дзень юбілейнай урачыстасці, 30 верасня, цёмныя суровыя хмары завалаклі неба, халодны вецер пранізваў наскрозь, ліў беспарастанку тужлівы дождж. Здавалася, што сама прырода аплаквала несвоечасова загінуўшага ў ссылцы майго бацьку і вучонага, які так шмат зрабіў для мастацтвазнаўчай навукі.

А 1-га кастрычніка, у дзень яго нараджэння, раптам на блакітным бязвоблачным небе н[illegible]кана цёпла і ясна заззяла [illegible]а, вітаючы і радуючыся разам з людзьмі таму, што ў гэты дзень нарадзіўся чалавек, для якога Беларусь стала яго другой радзімай, дзе знайшоў ён сваё асабістае шчасце і дзе расквітнеў яго талент як вучонага.

[illegible]атыры дні запар пра М. М. Шчакаціхіна з пашанай і павагай гаварылі навуковыя супрацоўнікі ўсіх рангаў не толькі Мінска, а і з Масквы і Пецярбурга.

Хто ж такі М. М. Шчакаціхін? Чым заслужыў ён доўгую удзячную памяць? Чаму ў юбілейныя дні гаварылі пра яго па тэлебачанні і радыё, пісалі ў газетах?

Каб зразумець гэта, неабходна ў думках перанесціся ў далёкія 20-я гады, калі мой [illegible]ка працаваў у Беларускім [illegible]ржаўным універсітэце і ў Беларускай Акадэміі навук. Вось што пісаў у ЛіМе мастацтвазнаўца Шматаў: «у 20-я гады М. Шчакаціхін быў не толькі найбольш дасведчаным, але і, па сутнасці, адзіным прафесійным мастацкім крытыкам і гісторыкам... Першай ахвярай сярод дзеячоў выяўленчага мастацтва стаў Шчакаціхін, асоба незвычайна яркая і таленавітая, з імем якога мы сёння звязваем па[illegible]так сістэматычнага комплекснага вывучэння беларускага мастацтва...»

Мой бацька прыехаў у Мінск у 1921 годзе. Да гэтага часу было ў беларускага народа вякамі створанае мастацтва, але не было пра яго навукі. М. М. Шчакаціхін быў першым, хто ўзваліў на свае плечы гэтую тытанічную і цікавую работу. Рускі па нацыянальнасці, ён самастойна вывучыў беларускую мову і палюбіў яе так моцна, як любіў Беларусь, і да канца дзён лічыў сябе ў душы беларусам.

Творчыя планы бацькі былі велізарнейшыя. Ён быў самым маладым сярод беларускіх вучоных. Калі яго арыштавалі ў 1930 г., яму было ўсяго трыццаць тры гады. Але тое, што ён паспеў зрабіць для навукі, не мае сабе роўных, нават сярод сучасных даследаванняў гісторыі беларускага мастацтва. Не адно пакаленне мастацтвазнаўцаў вучылася ў М. М., і лічаць, што ніхто яго да гэтага часу не пераўзышоў.

І чалавекам ён быў незвычайным, культурным, у поўным сэнсе гэтага слова. Дасканала валодаў французскай, нямецкай, грэцкай і лацінскай мовамі, вывучаў англійскую. М. М. быў вялікім аматарам і збіральнікам кніг. У яго была ўнікальная бібліятэка рэдкіх кніг. Быў эстэтам у навуцы і ў жыцці. Любіў прыгожыя рэчы і абстаўляў імі свой кабінет. Збіраў карціны, манеты, старадаўнія гербы на камянях, адбіткі пячаткаў і г. д. Пунктуальны, педантычна-акуратны, М. М. быў строгім, сур'ёзным і, разам з тым, жыццярадасным, сяброўскім, любіў патанчыць, асабліва мазурку, цаніў сур'ёзную музыку і спяваў рускія і беларускія народныя песні, акампанаваў сабе на цытры, добра маляваў, пісаў вершы, фатаграфаваў, захапляўся рыбалкай і паляваннем.

Праз пасля арышту бацька быў адпраўлены ў ссылку на 5 гадоў у г. Белябей Башкірскай АССР. А ў 1932 годзе мама з трыма дзецьмі прыехала ў Белябей, дзе пражылі мы 8 год, цяжкіх і страшных. Мае бацькі шчыра і пяшчотна кахалі адзін аднаго, і мама раздзяліла горкі і журботны лёс бацькі. У час знаходжання ў ссылцы бацька неаднаразова арыштоўваўся і знаходзіўся ў турэмным зняволенні. Сям'я несла паўгалоднае існаванне. Турмы падарвалі здароўе бацькі - ён захварэў на туберкулёз.

Але і ў гэтых цяжкіх умовах М. М. працягваў творчую работу. Зусім хворы, ён садзіўся за стол, аддаючы любімай справе свае апошнія сілы. У лютым 1940 года бацька скончыў работу над двума рукапісамі. «Гісторыя літоўскай манеты XVI-XVIII ст.» і калекцыю гербаў, адбіткаў, пячаткаў адправіў у Ленінград у падарунак Эрмітажу. А другі рукапіс перадаў маме са словамі: «Беражы, як зрэнку вока». (На жаль, гэты рукапіс згарэў у Мінску ў час Вялікай Айчыннай вайны).

Хвароба прагрэсавала. Адарваны ад паўнакроўнага культурнага жыцця, надломлены фізічна і духоўна, бацька злёг і больш ужо не падняўся. 5-га красавіка 1940 года перастала біцца сэрца М. М. Шчакаціхіна.

Мая маці, Г. М. Шчакаціхіна, маленькая, паэтычна настроеная жанчына, уся такая незямная, летуценная, аказалася мужнай і стойкай. Яна раздзяліла ўзлёт бацькі і яго падзенне, усе цяжкасці і жахі ссыльнага жыцця. Здолела пасля яго смерці (а гэта было нялёгка) дабіцца дазволу на выезд і прывезла нас, дзяцей, на радзіму. З таго часу прайшло 58 год, але не згубіліся сляды нашага бацькі ў глухім башкірскім горадзе Белябей. Юбілейныя ўрачыстасці паказалі, што аддаць даніну павагі чалавеку, які так шмат зрабіў для беларускай навукі, прыйшлі людзі ўсіх узростаў: і маладыя, і пакрытыя сівізной, якія ведаюць цану яго навуковага і жыццёвага подзвігу.



У СВАЁЙ БІБЛІЯТЭЦЫ.



ВЫКЛАДЧЫКІ БЕЛАРУСКАГА УНІВЕРСІТЭТА М.НІКОЛЬСКІ, ..., П.ТРАМПОВІЧ, М.ШЧАКАЦІХІН.

Незадоўга перад смерцю бацька сказаў маме: «Ты яшчэ выберашся адсюль, а я застануся тут векаваць назаўжды». Так яно і было. Але працуюць у Нацыянальным мастацкім музеі ў аддзеле «Старажытнае Беларускае мастацтва» незвычайныя людзі пад кіраўніцтвам Н. Ф. Высоцкага, якія шануюць талент М. М. Шчакаціхіна. Гэта яны ўзначалілі арганізацыю і правядзенне 100-га юбілею майго бацькі і здзейснілі, здавалася б, немагчымае: з Белябея, з могілак, дзе знайшоў бацька апошні свой прытулак, была прывезеная зямля, сімвалічны прах М. М. Шчакаціхіна, і пахаваная на магіле маці ў г. Маладзечна 2-га кастрычніка 1996 года.

Мне і маім старэйшым братам выпала незвычайнае шчасце нарадзіцца ў сям'і таленавітага вучонага, якім быў наш бацька. Але ўсведамленне веліччы асобы М. М. Шчакаціхіна прыйшло да нас толькі ў сталым узросце, калі яго ўжо не было побач з намі. Але ў нашых сэрцах застаўся вобраз незвычайнага чалавека, які стаў для нас ідэалам, дастойным павагі і вечнай удзячнай памяці нашчадкаў. А нас, нашчадкаў М. М. Шчакаціхіна, 22 чалавекі: трое дзяцей, сямёра ўнукаў, адзінаццаць праўнукаў, адзін прапраўнук. І ўсе мы жывём на беларускай зямлі, якой М. М. аддаў свой талент і сваё жыццё.

***Алена ШЧАКАЦІХІНА,*** *Маладзечна.*

# Беларуская кніга сёння

***Асноўнае прызначэнне бібліятэкі ў наш час: быць захавальніцай не толькі агульначалавечых каштоўнасцей, але і быць цэнтрам нацыянальнай памяці свайго народу.***

Як заўсёды, адной з вядучых тэм работы гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы ў 1997 годзе была краязнаўчая, распаўсюджванне культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа, роднага краю.

Працуючы ў гэтым накірунку, трэба адзначыць, што вялікую, неацэнную дапамогу ў задавальненні чытацкіх запатрабаванняў беларускай тэматыкі аказвае якасны, разгалінаваны даведачна–бібліяграфічны апарат і фонд краязнаўчых матэрыялаў: кнігі, газетныя і часопісныя артыкулы, тэматычныя зборы "Па старонках гісторыі Маладзечаншчыны", "Кожны край мае тых, каго апяваюць", "Імя на карце горада", "Галерэя славутасцей", " Гарадскія навіны" і іншыя. Кожная другая даведка беларускай тэматыкі. Менавіта ў даведачным аддзеле сканцэнтраваны і беларускія слоўнікі, энцыклапедыі, дапаможнікі бібліяграфічныя, статыстычныя.

Цэнтральная гарадская бібліятэка імя М. Багдановіча праводзіць цыкл вечарынаў, прысвечаных славутым людзям Маладзечаншчыны, знакамітым людзям Беларусі: Янку Купалу, Максіму Багдановічу, Генадзю Каханоўскаму, Міколе Ермаловічу і іншым паэтам і гісторыкам, пісьменнікам. У 1997 годзе вялікую цікавасць у чытачоў вызвалі вечарыны: "Песня аб родным краі" – аўтарская сустрэча з маладзечанцамі паэта Вячаслава Шнуркевіча, "Мой родны кут" – юбілейная выстаўка і вечар–сустрэча з мастаком Кастусём Харашэвічам, з "купалінцамі" – самадзейнымі паэтамі, членамі літаратурнага аб'яднання "Купалінка". Гасцямі маладзечанскіх чытачоў былі Раіса Баравікова, Аляксей Дудараў, Уладзімір Някляеў.

"Жыве культура наша" – так называўся тыдзень беларускай культуры ў горадзе, у час якога праходзілі вечарыны і ранішнікі, конкурсы, гутаркі і выстаўкі па тэмах: "Зямля бацькоў – майго жыцця крыніца", "Часоў былых і новых сувязь", "Нам засталася Спадчына", "Жывое ў вяках беларускае слова", "Прыгоды і фантастыка ў творах беларускіх пісьменнікаў", "Славутыя нашы землякі". У бібліятэках горада праводзілася серыя гутарак з цыкла "Славутыя імёны Беларусі на карце горада", прысвечаных дзейнасці Б. Тарашкевіча, В. Шаранговіча, Я. Драздовіча, К. Буйло, М. Забэйды–Суміцкага, У. Галубка, У. Буйніцкага і іншых.

Гутаркамі, праглядамі надрукаваных матэрыялаў было адзначана і 75–годдзе вядомага часопіса "Полымя" у цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча. Чытанкі, гутаркі, абмеркаванні дзіцячых твораў Р. Барадуліна, Н. Галіноўскай, М. Пазнякова, В. Жуковіча, А. Кобец–Філімонавай, В. Віткі, І. Шамякіна, У. Шыціка, С. Алексіевіч, Я. Хвалея, М. Зарэмбы праводзіліся ў дзіцячых філіялах. А для дарослых чытачоў праводзіліся юбілейныя выставы аб творчасці А. Жука, М. Гамолкі, Я. Брыля, М. Танка, А. Васілевіч, М. Шагала, А. Разанава. У дзіцячых філіялах №№2, 3, 4 да народных святаў прымяркоўваліся фальклорныя вечарыны, ранішнікі: "Прыляцела ластавіца – прынесла масленіцу", "Запалі калядную зорку", "Святы Вялікдзень". У дзіцячай бібліятэцы "Верасок" дзеля арганізацыі вольнага часу дашкольнікаў працуе пакой казак "Чароўны ліхтарык". А пры ім арганізаваны лялечны гурток, які рыхтуе лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак. Менавіта для маленькіх створаны ў гэтай бібліятэцы клуб цікаўных "А чаму?". Нават самыя маленькія чытачы ўсё часцей цікавяцца і абмяркоўваюць гісторыю бацькаўшчыны: адкуль назва роднага горада, калі надрукаваная першая кніга, хто такі Скарына? А юбілей любімага дзіцячага часопіса "Вясёлка" адзначаўся як вялікае свята, з конкурсамі, элементамі тэатралізаванасці.

Такой жа насычанай культурнаасветніцкай дзейнасцю плануецца работа цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы і ў 1998 г. Гэта літаратурна–публіцыстычная вечарына "За зямлю і волю" (да 160–годдзя К. Каліноўскага і 135–годдзя нацыянальна–вызваленчага паўстання 1863 года), музычна–паэтычныя вечарыны творчасці С. Законнікава і У Карызны, Адама Міцкевіча, В. Дуніна–Марцінкевіча і Яўгеніі Янішчыц, прэзентацыя кнігі А. Хазяніна "Сярод добрых людзей".

Уся гэта работа грунтуецца на беларускай літаратуры, якой у фондзе нашай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы 50618 экз. (13,7% ад агульнага фонда). Кнігавыдача беларускай літаратуры – 68462 экз. (13,5% ад усёй кнігавыдачы). Кніг беларускамоўных па гісторыі, культуры, эканоміцы, падручнікаў і мастацкіх твораў катастрафічна не хапае. Выкарыстоўваецца фонд беларускага перыядычнага друку.

Сістэматычна бібліятэкі займаліся вывучэннем і аналізам выкарыстання фонду беларускай літаратуры. Аказалася, што нават беларускія выдавецтвы не выконваюць поўнасцю папярэднія заказы на літаратуру.

Маладзечанскі гарвыканкам, разгледзеўшы пытанне "Аб ходзе выканання Закона РБ "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь" 22 красавіка 1997 г., накіраваў пісьмо старшыні Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у якім прапанаваў з мэтай стварэння якасных бібліятэчных фондаў нацыянальнай літаратуры вырашыць пытанне аб увядзенні дзяржаўных заказаў на беларускія выданні для публічных бібліятэк і ўдасканаленне сістэмы прыярытэтнага камплектавання бібліятэк. У Дзяржкамдруку гэта пісьмо было разгледжана і абяцана прыняць усе меры па забеспячэнні рэгулярнага камплектавання бібліятэк сацыяльна неабходнай літаратурай не толькі за кошт цэнтралізаваных сродкаў рэспубліканскага бюджэту, але і пры падтрымцы з боку мясцовых органаў улады. У выніку гэтай перапіскі мае станоўчыя рэзультаты: у 1997 годзе было заказана па тэматычных планах выдавецтваў 1178 экз. кніг, а паступіла 1509 экз. (14,5% ад усіх паступленняў).

Таксама было вырашана пачаць камплектаванне непасрэдна ў выдавецтвах "Полымя", "Вышэйшая школа", "Універсітэцкае", "Ураджай", "Юнацтва". І сёння можна адзначыць, што, карыстаючыся гэтым, камплектаванне стала больш танным і поўным. Камплектаванне, захаванне, адраджэнне і распаўсюджванне літаратурнай спадчыны, краязнаўчых ведаў, абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў – мэта і паўсядзённы клопат у дзейнасці бібліятэк.

***В. КАЧКАН, метадыст цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Багдановіча.***

ІМЯ

## Анжаліка Варум:

# «Свой дзень нараджэння не люблю з дзяцінства

- Вам падабаецца кожнае 26 мая праводзіць урачыста?

- Звычайна наогул ніяк не святкую з дзяцінства. Не люблю гэтае свята.

- А як вам новая тэндэнцыя, калі **Лявонцьеў, Кіркораў, П'еха, Разенбаўм** выходзяць у свой дзень нараджэння на сцэну «Октябрьского»?

- Добрая традыцыя. Я магу паспрабаваць. Тым болей, што гэтая зала прынесла мне ўдачу. А я вельмі баялася сваіх першых канцэртаў у Піцеры.

- Як працавалася на праграме з **Аляксандрам Рэўзіным**?

- Было цяжка. Ён мяне няньчыў, калі я была яшчэ дзіцем, а тут ён імкнуўся мяне выхоўваць. А мяне ўжо, напэўна, выхоўваць бессэнсоўна.

- Выхоўваць ці вучыць?

- Вучыць, калі гаворка ідзе пра сцэну. Я адстойвала свой пункт гледжання, мы часта сварыліся, але вынік быў дасягнуты.

- Але ніхто чамусьці не гаварыў пра змену іміджа, пра новую Варум.

- Раздзімаць рэкламную кампанію - таксама талент, які па заслугах узнагароджваецца.

- Колькі ў вас канцэртных убораў?

- Нават не ведаю - не лічыла.

- Які лёс напаткае тыя, што вы больш не апранаеце на сцэне?

- Я іх дару. Дзве дзяўчынкі-суседкі (9 і 13) займаюцца бальнымі танцамі - уборы перашываюцца і ідуць да іх.

- Якая вы за рулём аўтамабіля? Любіце хуткасць?

- Па горадзе я езджу дастаткова асцярожна. Аднак калі з'яўляецца магчымасць па трасе, па кальцавой разагнацца, раблю гэта з задавальненнем. Натуральна, калі ведаю дарогу.

- Ваш рэкорд хуткасці?

- 200. На «BMW». Можна і болей - 240, прыкладам. Можна і ўзляцець - былі б крылы.

- Анжаліка, ці ёсць у вашага праекта звышзадача?

- Несумненна. Нейкім чынам апраўдаць сваё існаванне, жыццё на зямлі. Вельмі хочацца быць каханай, каб гаварылі дзякуй за песні. Вельмі хочацца радаваць, быць патрэбным чалавекам.

- Даводзілася чуць, што вас лічаць некалькі дзіўным, выпадковым чалавекам у шоў-бізнесе. Кажуць нават, што вы не зусім у той час нарадзіліся. Узнікла ў вас такое самае адчуванне?

- Так. Для мяне гэта сумна. Я шкадую, таму што многія рэчы проста недасягальныя для майго разумення. Я не магу са многім змагацца, бо не ведаю - як?

- Які час з мінулых стагоддзяў вы б абралі?

- Думаю, што будучыню.

- Цікава. Звычайна людзі прагнуць трапіць назад - у антычнасць, у XIX стагоддзе... З вашай здольнасцю да пераўвасаблення ў кліпах вы можаце мець добрыя кінаперспектывы.

- А мне прапанавалі фільм. Дзве серыі. Рэжысёр **Дзербянёў** - ён зняў «Тайны чорных драздоў», «Жанчына ў белым».

- І якая там роля?

- Галоўная. У мяне там нават дзве ролі. Справа ў тым, што там адбываецца перамяшчэнне ў часе. Адна роля - маці, якую затым будзе граць **Наталія Варлей**, а я праз 20 год увасабляю яе дачку. Гэта цікавая казка з элементамі містыкі. Музыку піша мой бацька. А яшчэ мне прапанавалі ролю ў тэатры, у рэжысёра **Трушкіна**. Таксама добрая роля, цудоўная - прастытуткі. Была яна выдатніцаю ў школе, аднак па волі лёсу ёй даводзіцца займацца гэтай грэшнай прафесіяй.

- Вы згадзіліся?

- Не адмовілася.

*Працяг будзе.*

СЕКТАР СПОРТУ

# ...стаў рэгіянальным

*Пачатак на 1-й стар.*

Сёлета арганізатары прымянілі навінкі: акрамя традыцыйных каментатараў з вышкі (**Ірына Гаўрыс і Валянцін Ліпніцкі**) ля поля пастаянна знаходзілася з мікрафонам **Кацярына Дубяга**, якая апаратыўна даносіла да гледачоў думкі гульцоў і трэнераў; мячы падавалі хлопчыкі ў фірменных майках турніру.

Няўдала выступілі нязменныя фіналісты ўсіх трох папярэдніх розыгрышаў – гаспадары пляцоўкі "Рамас". Якая, уласна, розніца – 7-е месца ці 8-е? Трэнер беразінцаў **Канстанцін Харламаў**:

*– Узровень удзельнікаў стаў вышэйшы, а мы нават на месцы не стаялі – знізілі падрыхтаванасць. Хаця можна гаварыць і пра нешанцаванне. Летась былі прахадныя каманды – "Лебедзева", "Колас", "Ронда". А ў суботу да апошніх гульняў не было вядома, хто выходзіць у паўфіналы. Лік многіх матчаў вызначаўся толькі на апошніх хвілінах ці нават секундах.*

Дарэчы, за лідчанаў выступалі некалькі былых гульцоў "Абутніка", былы прызёр чэмпіянату Расіі па міні–футболе.

У першы дзень не прыехаў **Сяргей Сафонаў** і "Атлант" выглядаў бляклa. Мінулагодні чэмпіён у матчы з лідчанамі змог зачапіцца толькі за 5–е месца, што дае права праз год выступіць у турніры без адборачных гульняў. Што тычыцца Сафонава, то летась ён выдзяляўся індывідуальнай гульнёй, сёлета ж, у асноўным, працаваў на партнёраў, нібы дэманстраваў футбольную мудрасць. У нядзельнай гульні выдаваў цудоўныя пасы, з якіх мінчане рэалізавалі ўсяго адзін.

Каманда ЗЛМК сваіх амбіцый не хавала і ў паўфінале лёгка разабралася з вілейчанамі – 5:0.

Другі паўфінал выдаўся драматычным. Жодзінскі "БелАЗ" выйграваў у маладзечанскага "Унікаба" 2:0, затым не рэалізаваў некалькі выгадных момантаў (не забівалі з 5–7 метраў). За секунды да канца матча жодзінцы яшчэ вялі 3:2, але парушылі правілы і з 11–метровага "Унікаб" лік зраўняў.

Крыху падрабязней пра эпізод з прызначэннем пенальці. Як звычайна бывае, жодзінцы абурыліся і пачалі насядаць на суддзю **Сяргея Мятліцкага**, але малады арбітр здолеў застацца спакойным і рашэнне не адмяніў. Матч на суседняй пляцоўцы скончыўся крыху раней, таму гледачы маглі бачыць, як футбалісты "БелАЗа" парушылі правілы ля сваіх варот двойчы – спачатку была гульня рукой, а затым штуршок маладзечанца на штангу.

У пасляматчавых пенальці футбалісты "Унікаба" былі больш дакладныя.

Затым прайшла "выставачная" сустрэча паміж адміністрацыямі "Рамаса" і ЗЛМК. У адрозненне ад мінулых падобных яна прайшла без іскрынкі: у 1996–м гэта было шоў, дзе **Сяргей Бароўскі** пранес мяч да варотаў саперніка ў трусах (гол, праўда, не залічылі), варатар **Генадзь Пустаход** прама на "баявым пасту" частаваўся марожаным, адпаведна і лік быў ці то 9:9, ці то 11:11; у 1997–м ветэраны футбола Беразінскага трэніраваліся ледзьве не з зімы, "зарубіліся" і пераканаўча выйгралі ў арганізатараў турніру.



Міні-футбол - гэта калі на квадратны метр поля прыходзіцца каля 4-5 гульцоў.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

У матчы за 3–е месца "БелАЗ" у матчы з вілейскім "Зенітам" без праблемаў выйграў 10 мільёнаў рублёў – 4:2.

Фінал быў дастойны Францыі, дзе цяпер змагаюцца лепшыя футбольныя зборныя. Нервовая, жорсткая гульня, адразу некалькі жоўтых картак у ЗЛМК (што дало некаторым падставу выказваць меркаванне, нібы суддзя "сплаўляе" каманду). У боксе такія сустрэчы заканчваюцца датэрмінова – "за яўнай перавагай". У футболе інакш: каманда ЗЛМК мела дастаткова момантаў, каб выйграць з разгромным лікам, але не рэалізавала ніводны.

Затое іхні варатар са спазненнем адрэагаваў на далёкі ўдар – 0:1. А калі ўсе кінуліся адыгрывацца і праваліліся ў абароне, тры сапернікі выйшлі супраць двух абаронцаў і шанец скарысталі – 2:0.

Няўдачнікі атрымалі 15 мільёнаў рублёў, а пераможцы – 25. Днём раней, дарэчы, сапернікі правялі матч у падгрупе, лік быў такі самы – толькі на карысць ЗЛМК.

"Рэгіянальная газета" ўручыла спецыяльны прыз лепшаму абаронцу – жодзінцу **Паўлу Мінічу**. Лепшым бамбардзірам стаў **Вячаслаў Ваўчок,** які выступаў за "Рамас" – 7 мячоў. Свінню падклалі ветэрану футбола **Анатолю Грыню** з ЗЛМК (спецыяльную, салодкую).

Сёння ў Беразінскім пройдзе ўжо другая нарада аргкамітэта турніру Беразінскае–99.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## АНОНС

**ФУТБОЛ**

*13 чэрвеня* 2 ліга Гр. А: "Атака–Сп." (Мн.) – "Забудова" (2 м. 17 ачк.) (5 м. 14 ачк.)

2 л. Гр. А "Івацэвічдрэў" – "Смаргонь" (13 м. 3 ачк.) (14 м. 0 ачк.)

Чэмпіянат вобласці: "Меліяратар" (Капыль) – "Прадпрымальнік", "Іслач" – "Гайна" (Барысаўскі р–н)

*14 чэрвеня* Вышэйшая ліга "Маладзечна" – "Славія" (Мазыр)

**МОТАКРОС**

*14 чэрвеня.* Ашмяны. На мясцовай трасе пройдуць спаборніцтвы па мотакросе.

ДРУГАЯ ЛІГА

# Падмурак закладзены

***Чарговая перамога "Забудовы" можа стаць важным крокам да агульнай перамогі ў чэмпіянаце ў сваёй лізе.***

2 ліга Група "А" 8 тур 6 чэрвеня

***"Забудова" – "Днепр–2" (Магілёў) 2:1***

5 хв. – 0:1, 6 хв. – 1:1 (Мятліцкі), 44 хв. – 2:1 (Мятліцкі)

Склад: Цішчанка, Нядзелька, Саковіч, Гулевіч, Кабельскі, Д. Ваўчок (Шэк, 66 хв.), Карыцька, Касцюкевіч (к.), С. Дараховіч, Казяк, Мятліцкі (Макрыцкі, 58 хв.).

*Аляксандр ГАРМАЗА:*

– У выпадку перамогі "Днепр" дагнаў бы "Забудову", і таму на гульню настройваліся вельмі сур'ёзна. Узніклі цяжкасці з нападаючымі, Макей прапускаў матч з–за выдалення, а Слава Ваўчок удзельнічаў у турніры па міні–футболе ў Беразінскім. На падмогу ўзялі Віталя Казяка з "Маладзечна".

На 5 хвіліне першымі прапусцілі, але праз тры хвіліны Казяк вывеў Мятліцкага сам–насам з варатаром, а на апошняй хвіліне першага тайма пасля перадачы таго ж Казяка Мятліцкі забіў пераможны гол.

***ФК "Смаргонь" – "Атака–Спорт" (Мінск) 1:2***

0:1 (60 хв.) 1:1 Юркевіч (70 хв. – пен.) 1:2 (86 хв.)

Склад: Канапелька, Васілеўскі, Недавес, В. Макей, Юркевіч, Гакуць, Ланько, Шчасны, Карабінскі, Кошаль (Відук – 55 хв.), Максіменка.

Трэнер *Андрэй МАЙСЕЙЧАНКА:*

– Фартуна адвярнулася ад каманды. У цэлым згулялі даволі добра, маглі зачапіцца за ачко, але прапушчаны за 4 хвіліны да канца сустрэчы мяч перакрэсліў усе надзеі.

У чэмпіянаце вобласці ад горада заявілі каманду, складзеную, у асноўным, з юнакоў 82 г. н. – яна заклікана рыхтаваць рэзерв для галоўнай каманды.

Экспрэс-інфармацыя:

***"Маладзечна" - "Нёман" (Гродна) 0:2.***

*Аляксандр ГУЛЕЦКІ.*

СМАЧНА ЕСЦІ



# Мяса ў гаршэчку

Цыбуля абсмажваецца на патэльні ў алеі, потым дадаюцца грыбы, мінут праз пятнаццаць дадаецца нарэзанае невялічкімі кавалачкамі мяса. Усё пасаліць, паперчыць, тушыць яшчэ каля 15 мінут.

Нарэзаная саломкай бульба, цертая морква, мяса з грыбамі (можна сухімі адваранымі) і цыбуляй укладваюцца ў гаршэчак (можна яшчэ раз падсаліць) і перамешваюцца. Усё заліваецца булёнам, зверху абавязкова кладзецца кавалачак масла, пасыпаецца нацертым сырам, можна паліць зверху маянэзам. Гаршэчак паставіць ў духоўку і не даставаць каля 40 мінут.

Гатоўнасць правяраецца па бульбе. На адзін сярэдні гаршэчак:

*мяса* .................... *200 г.*
*бульба* ................. *3 шт.*
*цыбуля* ................ *1 шт.*
*грыбы* .................. *150 г.*
*булён* .................. *2/3 шклянкі*
*морква цертая* . *3 ст.л.*
*сыр* ..................... *50 г.*
*масла* .................. *1 ст. л.*
*алей* ..................... *3 - 4 ст.л.*
*маянэз* ................. *3-5 ст.л.*
*соль, перац* ......... *па густу.*

Фантазіруйце! Мы чакаем вашых арыгінальных рэцэптаў, лепшыя з якіх будуць апублікаваныя.

Смачна есці!

*Наташа ГАМОЛКА.*

ГАСПАДАРУ

# Вы купляеце бензапілу

***У папярэдніх нумарах "РГ" мы гаварылі аб патрабаваннях да бензапілаў. Сёння спынімся на мадэлях, якія пастаўляюцца на беларускі рынак.***

ТАЙГА 245. Цана ад $261. Прафесійны інструмент. Магутнасць рухавіка 2,6 кВт (3,5 к.с). Рабочы аб'ём цыліндра: 45 куб. см. Даўжыня шыны (рэкамендуемая): 40 см. Крок ланцуга: 3/8 цалі. Дадатковыя функцыі: антывібрацыйная сістэма, электронная сістэма запальвання, аўтаматычны тормаз, аўтаматычная змазка ланцуга. Вага: 8,95 кг.

Пермская "Тайга" здавён вядомая лесарубам. Яе выкарыстоўваюць, як правіла, разам з больш магутнымі бензапіламі ДРУЖБА і УРАЛ: спачатку ідзе брыгада "вальшчыкаў", узброеных ДРУЖБАМІ і УРАЛАМІ, затым брыгады "сучкарубаў" з больш кампактнымі і лёгкімі бензапіламі ТАЙГА (хаця пры неабходнасці мадэлі гэтай маркі у стане справіцца і з валкай). У цэлым мадэль можна назваць універсальным інструментам для выканання лесанарыхтоўчых і "бытавых работ". На такіх параметрах, як вага і даўгавечнасць, яна крыху саступае замежным аналагам, а ў астатнім гэта цалкам добры інструмент са стандартным джэнтэльменскім наборам функцый, якія аблягчаюць эксплуатацыю (напрыклад, ёсць электронная сістэма запальвання і аўтаматычная змазка пільнага апарата). Абарона ад вібрацыі здзяйсняецца сталёвымі спружыннымі ізалятарамі, а хуткадзейны тормаз пілы і ўлоўнік ланцуга забяспечваюць бяспеку ў рабоце.

Пры падрыхтоўцы паліўнай сумесі выкарыстоўваецца толькі 76-ы бензін, які таннейшы за 92-і, ён прымяняецца ў большасьці мадэляў. Пакупніцкі попыт на мадэль звязаны з яе невысокім коштам, а таксама з тым, што многія паранейшым аддаюць перавагу прывычнай тэхніцы з СНД.

*Віктар АНАНІЧ.*

ГАРАСКОП 15 – 21 ЧЭРВЕНЯ

**АВЕН (21.03- 20.04)**
Добрыя дні **17 – 20.** Важны дзень **19.** Пры кантактах з Рыбамі даведаешся пра інтымныя справы больш, чым хацеў ведаць. Рыбы прынясуць табе таямніцы, інтрыгі, тайныя дагаворы, прыгоды і рызыку. Скарыстай момант!

**ЦЯЛЕЦ (21.04-20.05)**
Добрыя дні **19 – 21.** Важны дзень **18.** Перамены, падарожжы, разнастайнасць, справы, звязаныя з тваім грамадскім становішчам, набяруць важнае значэнне словы ў гутарцы і на пісьме.

**БЛІЗНЯТЫ (21.05-21.06)**
Добры дзень **21.** Важны дзень **17.** У святле пражэктараў апынецца твая індывідуальнасць, уласны магнетызм і сексуальная прыцягальнасць. Пераможаш перашкоды адлегласці і моўныя бар'еры.

**РАК (22.06- 22-07)**
Важную ролю ў тваім жыцці адыграюць асобы з-пад знакаў Льва і Вадалея, а ў іхніх імёнах або прозвішчах будуць стаяць літары **А, С, І.** Кантакт з Львом гэта грошы, павага да нерухомасці.

**ПЕЎ (23.07- 22.08)**
Кепскія дні **15 – 16.** Важны дзень **15.** Рашэнні наконт месца працы, прафесійнай кар'еры, дадатковыя абавязацельствы, дзякуючы якім заробіш добрыя грошы.

**ДЗЕВА (23.08- 22.09)**
Кепскія дні **15, 16, 17.** Адпачынак і забаўкі ў дамашніх сценах. Будзе граць для цябе музыка.

**ШАЛІ (23.09- 22.10)**
Кепскія дні **17 – 19.** Ты можаш выйграць на тым, што вісіць у паветры. Не забывайся на свой вопыт, якім можаш плённа скарыстацца. Адкрываюцца перад табой новыя перспектывы. Будзь рашучым у дасягненні мэты.

**СКАРПІЁН (23.10- 21.11)**
Кепскія дні **19 – 21.** Важны дзень **21.** Добра пойдуць фінансавыя справы. Атрымаеш адказы на пытанні "што, дзе, якім чынам?".

**СТРАЛЕЦ (22.11-21.12)**
Кепскія дні **21.** Добры час на планаваную хірургічную аперацыю для кагосьці з тваіх дзяцей. Можаш разлічваць на высвятленне сітуацыі ў фінансавых справах, планаванні бюджэту і інвестыцыях. Добры прагноз для рэалізацыі розных акцый.

**КАЗЯРОГ (22.12- 19.01)**
Важны дзень **19.** Да тваіх пачуццяў вяртаецца стабілізацыя. Гэты час, калі каханне можа быць спакойным, адначасова практычным і рамантычным.

**ВАДАЛЕЙ (20.01-18.02)**
Добры дзень **15.** Важны дзень **18.** Важныя рашэнні ў справах сяброўства, членства ў розных грамадскіх арганізацыях і ўдзеле ў грамадскім жыцці.

**РЫБЫ (19.02- 20.03)**
Добрыя дні **15 – 18.** Важны дзень **17.** Сексуальныя сілы злучацца са спірытуальнымі. Поспех, які калісьці прайшоў, зноў вернецца, запалае сапраўдным полымем.

